# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 5 (61) 4 - 10 лютага 1994 г. Кошт 150 рублёў

## ВЫ ДАГУЛЯЕЦЕСЯ, ПАНОВЕ НАМЭНКЛЯТУРА!

На мінулым тыдні на працягу трох дзён за зачыненымі дзьвярыма адбываліся ў Вярхоўным Савеце намэнклятурныя разборкі. (Што там эканоміка, дзяржава, культура). Мы маем магчымасьць назіраць характэрную праяву агоніі сістэмы. Сістэмы ўлады, што даўно перажыла сама сябе, амярцьвела, згніла і прадаўжае абсурдна існаваць, раскладаючыся на вачах. Мы бачылі чарговую спробу антыбеларускай пракамуністычнай большасьці канчаткова і абсалютна замацаваць сваю прысутнасьць і кіраўніцтва ў галоўных зьвеньнях улады на Беларусі. Не выпадкова, што ўвесь гэты «гвалт» у канчатковым выніку зноў зьвёўся да патрабаваньня зьняць з пасады Шушкевіча і невыгадных міністраў унутраных справаў і КДБ. Расейская мафія і расейскія сьпэцслужбы імкнуцца захапіць ключавыя пасады ў дзяржаве і паздымаць з іх беларусаў гэтак жа, як яны пры дапамозе Кебіча і Данілава паздымалі беларусаў у беларускім войску і замянілі беларускае кіраўніцтва буйнейшых заводаў на расейскіх функцыянераў.

Спадар Кебіч і яго акружэньне здрадзілі Беларусі, Яны імкнуцца любымі сродкамі жорстка цэнтралізаваць уладу, рыхтуюць палітычныя ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі перад афармленьнем эканамічнай авантуры аб уваходжаньні Беларусі ў грашовую сістэму Расейскай Фэдэрацыі. Такая палітыка ёсьць антыдзяржаўная палітыка і зьяўляецца злачынствам, за якое спраўцы яго павінны панесьці пакараньне. Я ўпэўнены, што яны панясуць пакараньне.

Грамадзяне Беларусі павінны выразна ўсьведамляць, што галоўная небясьпека цяпер для нашага грамадзтва і галоўны вораг нашай дзяржавы ёсьць расейскі палітычны і эканамічны імпэрыялізм і кампрадорская дзейнасьць ураду Кебіча. Гэтыя людзі перад сканаваньнем сістэмы не могуць абыйсьціся без крыві. Ужо двойчы на працягу цяперашняй сэсіі выводзіліся войскі да Дома ўраду. Што гэта за дэманстрацыя? Бразгеньне зброяй перад дэпутатамі сьведчыць пра безадказнасьць тых, хто аддае загады.

Я патрабую адхіленьня ад пасады намесьніка Міністра МУС генэрала К.Платонава, які падняў войскі, згодна яго слоў, па ананімным тэлефонным паведам-леньні, не паставіў пры гэтым у вядомасьць Міністра і Старшыню Савета Міністраў. Такі чалавек не павінен кіраваць узброенымі людзьмі.

Тое, што расейскі імпэрыялізм зьяўляецца ідэалогіяй камуністаў на Беларусі, сьведчаць адносіны пракамуністычнай газэты «Советская Белоруссия» да майго артыкула «Аб рускім імпэрыялізме і яго небясьпецы» («Народная газета», - 1994 г., 15 студзеня.) і асабліва выступленьні з трыбуны Вярхоўнага Савета людзей пазаўчарашняга дня. Цьвёрдыя камуністы гатовыя абараняць нават свайго заклятага ворага Ельцына і ўсю яго каманду, дастаткова толькі ім пачуць крытыку імпэрскай палітыкі цяперашніх расейскіх кіраўнікоў.

Пачынаецца чарговы тыдзень Сэсіі Вярхоўнага Савета. Трэба было б заняцца эканомікай, нацыянальнай валютай, новым пераходным урадам. Але адчуваю вашае жаданьне, спадары дэпутаты, зноў зачыніцца і пачаць вялікую грызьню. Вы дагуляецеся, панове-намэнклятура.!

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
**з выступленьня на Сэсіі Вярхоўнага Савету 25.01.94.**

## ЗАЯВА АПАЗІЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

Адклаўшы абмеркаваньне надзенных пытаньняў, камуністычная большасьць Вярхоўнага Савета на працягу чатырох дзен ладзіла разбіральніцтва, ў выніку якога былі адпраўленыя ў адстаўку Міністар Унутраных спраў Уладзімер Ягораў і Старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі. Фармальна ў якасьці нагоды для іх звальненьня была выбрана вядомая гісторыя з арыштам двух функцыянэраў кампартыі Літвы, што знаходзіліся ў росшуку з 1991 года за ўчыненьне злачынства. Фактычна ж галоўнай прычынай такога галасаваньня праўрадавай большасьці стаў сумесны ліст У.Ягорава і Э.Шыркоўскага да народных дэпутатаў ад 20 лістапада 1993 года, ў якім яны ўказалі на незаконныя і небясьпечныя для нашай дзяржавы дзеяньні і асобных урадавых структураў. Апроч таго МУС і КДБ прадставілі ў распараджэньне Часовай дэпутацкай камісіі па расьследваньні дзейнасьці камэрцыйных структураў пры органах улады і кіраваньня вялікую колькасьць фактаў злоўжываньня афіцыйнымі асобамі, ў тым ліку кіраўнікамі Ўрада, сваім службовым становішчам. Ул.Ягораў і Э.Шыркоўскі публічна канстатавалі перад Вярхоўным Саветам росквіт карупцыі ў самых вышэйшых эшалонах улады, прычым Старшыня КДБ засьведчыў разбуральную дзейнасьць замежных спэцслужбаў.

Сьмехатворнымі ў гэтай сытуацыі выглядаюць спробы намэнклятурнай большасьці апеляваць да «законнасьці», да «неабходнасьці пабудовы прававой дзяржавы». Пра гэта раптам загаварылі тыя людзі, для якіх усе жыцьце існавала «тэлефоннае права» і воўчы закон расправы над тымі, «хто пайшоў супраць сваіх». Апазіцыя БНФ і іншыя дэмакратычныя дэпутаты адмовіліся галасаваць і не ўдзельнічалі ў гэтай бруднай справе.

Зьняцьце з пасады двух кіраўнікоў «сілавых ведамстваў» выглядае працягам палітыкі Ўрада Кебіча, які дзеля таго, каб уцячы ад адказнасьці за развал народнай гаспадаркі, спрабуе ўстанавіць адзінаўласную дыктатуру, абапіраючыся на верных сабе намэнклятуршчыкаў з Вярхоўнага Савета і пэўныя сілы за мяжой нашай дзяржавы, ў Расеі. Гэтая палітыка будзе мець працяг у спробах зьнішчэньня дэмакратычнай прэсы, правядзеньні магчымых прэзідэнцкіх выбараў пад жорсткім кантролем сеньняшняга ўрада, выкарыстаньні гвалтоўных сродкаў дзеля адной мэты - захаваньня сваей улады і ліквідацыі нашай дзяржавы на карысьць расейскіх інтарэсаў. Ўсе грамадзяне Беларусі, не зашораныя намэнклятурнымі догмамі, павінны ўсьвядоміць гэтую небясьпеку і актыўным грамадзкім дзеяньнем адправіць у адстаўку сеньняшні збанкрутаваны Ўрад, дамагчыся датэрміновых дэмакратычных выбараў у новы прафэсійны парлямэнт нашай незалежнай дзяржавы.

**З.ПАЗЬНЯК, А.ПАРУЛЬ, М.КРЫЖАНОЎСКІ, І.ГЕРМЯНЧУК, П.ХОЛАД, А.ШУТ, С.ПАПКОЎ, Ю.БЕЛЕНЬКІ, І.ПЫРХ, А.ТРУСАЎ, С.АНТОНЧЫК, Г.ГРУШАВЫ, Л.ДЗЕЙКА, С.БАБАЧОНАК, Я.ГЛУШКЕВІЧ, С.НАВУМЧЫК, Б.ГЮНТАР, В.КАКОЎКА, В.АЛАМПІЕЎ, В.ГОЛУБЕЎ, М.АКСАМІТ, В.МАЛАШКА, Ў.НОВІК, А.БАРЫСЕНКА, І.ГЕРАСЮК, Л.ЗДАНЕВІЧ, С.СЛАБЧАНКА, І.СЯМАШКА, Л.БАРШЧЭЎСКІ, М.МАРКЕВІЧ, Г.СЯМДЗЯНАВА, Я.НОВІКАЎ, Я.ЦУМАРАЎ, А.САЛДАТАВА, Л.ТАРАСЕНКА, В.ШАЧАК.**

## 29 СТУДЗЕНЯ АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ ГАРАДЗЕНСКАЙ АБЛАСНОЙ РАДЫ БНФ

Гэтым разам яно адбывалася ў Лідзе. На ім прысутнічалі, акрамя прадстаўнікоў гарадзкіх і раённых Радаў Горадні і Ліды, дэлегаты большасьці раённых Радаў БНФ Гарадзеншчыны, прадстаўнікі некаторых суполак вобласьці, а таксама госьці з Менску.

У першую чаргу было абмеркавана палітычнае становішча на Беларусі і арганізацыйныя пытаньні ў сувязі з магчымымі выбарамі. З дакладам па гэтых праблемах выступілі З.Жданюк (Менск), А.Астроўскі (Горадня) і В.Сіўчык (Менск).

Удзельнікі паседжаньня прышлі да агульнай высновы аб неабходнасьці актывізацыі сваей дзейнасьці ў розных накірунках. Акрамя таго, на паседжаньні з інфармацыйным паведамленьнем аб дзейнасьці Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі і аб бліжэйшых планах Фонду выступіў яго прадстаўнік М.Кобаса. Цікавым было таксама выступленьне прадстаўніка Беларуска-Каталіцкай Грамады з Менску А.Бяляцкага, які распавеў пра актыўную беларусізацыю касьцелу ў нашай сталіцы.

**А.ТАЛЕРЧЫК**

## СТВАРЫЛАСЯ ПЕРШАЯ ПАРТЫЙНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

26 студзеня ў Мастах адбыўся ўстаноўчы сход сяброў БНФ і партыі БНФ Мастоўскага раёна. У стварэньні раённай арганізацыі прынялі ўдзел суполкі г.Масты, вёсак Гудзевічы і Лунна.

На сходзе выступіў старшыня вабласной Рады БНФ «Адраджэньне» Мікола Баўсюк. Ён распавядаў аб неадкладнасьці стварэньня структураў БНФ і партыі БНФ ва ўсіх раёнах і сельсаветах, а таксама зрабіў справаздачу аб апошнім сойме БНФ, сустрэчы апазіцыі з Б.Клінтанам і аб наведваньні ім Курапатаў.

На сходзе выступілі - старшыня мастоўскай суполкі Леў Барташ, сябры Міхал Гладухаў, Сяржук Дольнік. Сябры мастоўскай суполкі прапанавалі абраць старшыней Л.Барташа, Алесь Белакоз прапанаваў В.Беліду. Па выніках сходу былі абраны старшыней - Леў Барташ, намесьнікам - Васіль Беліда, сакратаром - Сяржук Дольнік, скарбнікам - Міхал Гладухаў. У склад таксама ўвайшлі Алесь Белакоз, Уладзімір Брыцько, Ганна Хіхол. Сход атрымаў інфармацыю аб стварэньні новых суполак у вёсках Правыя Масты і Мікелеўшчына.

**(спадар).**

## ХТО ВІНАВАТЫ ?

На сэрцы робіцца балюча, калі пасьля кожнага пявыхаду «Пагоні» абураныя чытачы спрабуюць высьветліць пытаньне чаму?

Чатыры запазьдалыя выхады «Пагоні», калі ўсе астатнія гарадзенскія газэты ўбачылі сьвет, непакоіць чытача. Таму сеньня сьпяшаем даць нашым прыхільнікам тлумачэньне.

Паважаныя, мы заўжды ў час здаем да друкарні ўсе еабходныя матэрыялы. Своечасова робім фінансавыя разьлікі. Але, чамусьці, час ад часу наша «Пагоня» па незалежных ад нас прычынах не трапляе да вас. Калі ж спрабуем высьветліць тое-самае «чаму?», то ў адказ чуем, што зламалася друкарская машына, ці нехта захварэў.

Вось і чарговы - чацьвёрты сёлетагодні нумар трапіць да вас са спазьненьнем, бо, як высьветлілася, захварэў друкар.

Канечне, ўсё гэта для вас не апраўданьне. Вам неабходна своечасова атрымаць любімую газэту, а мы, на жаль, тут вам нічым ня можам дапамагчы. Як і ня можам вырашыць праблему перасылкі «Пагоні» па почце, ў супрацоўнікаў якой пастаянныя пытаньні з палівам.

**З павагай да сваіх чытачоў калектыў рэдакцыі.**

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В.ПАНУЦЕВІЧ

# ГАРАДЗЕНШЧЫНА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ РУХУ Ў 1918-1919 ГАДОХ

**(Пачатак у N4).**

Дзеля ілюстрацыі тагачаснага беларускага становішча прачытаем урыўкі з мэмарыялу Дыпляматычнай місіі Рады БНР у Лацьвіі і Эстоніі з 20.1.1920г., перасланага Штабс-Сакратару ЗША, ў якім апісваецца справа тварэньня беларускай збройнай сілы і нацыянальнай самаабароны.

«Пачынаючы з першых дзён свайго ўтварэньня, а найменна з 17/30 сьнежня 1917г. урад Беларускай Народнай Рэспублікі ўступіў на шлях адкрытай барацьбы з бальшавікамі. Гэта быў другі што да часу паўстаньня на тэрыторыі былой Расеі нацыянальны ўрад, узьняўшы змаганьне: першымі выступілі Украінцы.

«На тэрыторыі Беларусі ў розных мясцох Расеі былі, ня гледзячы на робленыя бальшавікамі перашкоды, твораныя беларускія аддзелы, каторыя паступова сьцягваліся ў горад Менск, дзе на чале з ген.Кандратовічам дзейнічаў Цэнтральны Беларускі Ваенны Штаб. Асабліва вялікія фармацыі паўсталі пад кіраўніцтвам ген. Пажарскага ў Румыніі, дзе стаялі карпусы расейскіх войскаў, утвораныя на тэрыторыі Беларусі і таму складаліся амаль поўнасьцяй зь Беларусаў.

«Павялічэньне беларускіх войскаў, настроеных супраць Немцаў і бальшавікоў, вельмі непакоіла бальшавікоў і яны ў многіх гарадох (Віцебску, Смаленску, Воршы і Менску) нападалі на Беларусаў і пробавалі іх раззброіць. Спроба гэтая ў Віцебску, Смаленску і Воршы ім поўнасьцяй удалася, бо невялікія беларускія аддзелы, якія стаялі ў названых гарадох, пасьля адважнага супраціву, былі раззброеныя. У Менску, аднак бальшавікі пацярпелі няўдачу і пасьля некалькі дзен пасьля нападу, самі былі 17 лютага 1918 года выкінены беларускімі аддзеламі з дапамогай польскіх з гораду і яго ваколіцаў на 150 верст. Уся ўлада ў горадзе і ачышчанай губэрніі перайшла да ўраду БНР.

«На дапамогу слабым беларускім сілам, каторыя былі ў вызваленым раене, быў выкліканы з Румыніі Беларускі Корпус ген.Пажарскага. Зараз жа было выслана некалькі эшалонаў, але, на жаль, яны спазьніліся. 25 лютага беларускія аддзелы ў Менску прымушаны былі 10-ай нямецкай арміяй, увайшоўшай у Менск, здаць зброю.

«Цераз некалькі дзен Румыны, падпісаўшы мір зь Немцамі, абкружылі рэшту беларускага Корпусу і запрапанавалі яму здаць зброю ды выйсьці зь Ясаў. Брыгады згадзіліся на свабодны паварот на бацькаўшчыну і на здачу зброі толькі не Румынам, а адумыснай камісіі, ўтворанай з прадстаўнікоў Антанты ў Румыніі...

«У Адэсе і Кіеве былі ўтвораныя беларускія этапы і ахоўныя аддзелы пры іх. У іх, пасьля раззбраеньня беларускіх аддзелаў на бацькаўшчыне ў Румыніі, групаваліся рэшткі беларускай арміі. Частка яе прыбыла дамоў, іншая загінула, яшчэ іншая зь бяды ўступіла ў белую расейскую армію.

«На працягу ўсяго часу прабываньня Немцаў на беларускай тэрыторыі, яны (Немцы) вялі палітыку заіграваньня з бальшавікамі,і, ня гледзячы на колькаразовыя стараньні Рады БНР, яны не дазволілі Беларусам тварыць свае войска. Калі зноў беларускія ахвіцэры выкарыстоўваючы запасы зброі сялянаў, адабранай ад уцякаючых бальшавікоў, прыступілі да тварэньня беларускіх аддзелаў без дазволу нямецкіх уладаў, арганізатары гэтых аддзелаў на чале з палк.Езавітавым, былі арыштаваныя, пасаджаныя ў вязьніцу, і толькі неспадзяваны выбух нямецкай рэвалюцыі ўратаваў іх ад растрэлу.»

Як бачым, найбольшай перашкодай дзеля ўтварэньня беларускай збройнай сілы была нямецкая акупацыя Беларусі ды неразумная нямецкая палітыка заіграваньня з бальшавікамі коштам Беларусі, спадзяючыся, што ім, Немцам, удасца перакіненымі сіламі з усходняга фронту выратаваць страты на заходнім фроньце.

Ў другой палавіне 1918 году нямецкая акупацыя значна памякчэла. Па ўсей Беларусі пад нямецкай кантроляй разгарнулася культурнае жыцьце, школьніцтва, тэрытарыяльная адміністрацыя, а таксама дыпляматычная дзейнасьць ураду БНР. Немцы толькі супраціўляліся тварыць Беларускае войска, ня хочучы дражніць бальшавікоў, з якімі нават падпісалі 27 жніўня 1918 года ў Бэрліне дадатковую ўмову да Берасьцейскага трактату, ў якой яны абавязаліся эвакуаваць Беларусь і басэйн Чорнага мора ды не тварыць незалежных дзяржаваў на названых тэрыторыях.

Ў гэтым часе заварушылася і Горадня. Пайшлі весткі, што Гарадзеншчына і Віленшчына ўвойдуць у склад жамойцкай дзяржавы, а рэшта Беларусі будзе перададзена бальшавікам. У Вільні яшчэ 25-27 студзеня 1918г. адбыўся зьезд прадстаўнікоў ад беларускіх арганізацыяў Віленшчыны, на якім была выбраная Беларуская Рада, як нацыянальнае беларускае прадстаўніцтва. Цяпер чарга прыйшла і на Гарадзеншчыну. На пачатку верасьня 1918 года актыў беларускі Горадні пастанавіў склікаць агульна губэрнскі зьезд у Горадні. З недахопу чыгуначнага і іншага транспарту арганізатары разбрыліся па ўсей Гарадзеншчыне і пераважна пеша абыйшлі важнейшыя месты і мястэчкі, воласьці й большыя сёлы, і там жа выбіралі дэлегатаў на Зьезд у Горадню.

Такім парадкам 1-2 сьнежня 1918 года ў Горадні адбыўся Беларускі Нацыянальны Кангрэс Гарадзеншчыны, які аднадумна паклікаў да жыцьця Гарадзенскую Беларускую Ўправу з Е.Курловам на чале ды выказаўся за далучэньне ўсяе Гарадзенскае губэрніі на асновах аўтаноміі да жымойцкай рэспублікі.

Тым часам 11 лістапада наступіла капітуляцыя Нямеччыны. На ўсходнім фроньце ўладу пераняялі нямецкія жаўнерскія рады, прыязна настроеныя да бальшавікоў, якія дамаўляліся з імі аб перадачы тэрыторыі, ўзбраеньня, транспарту і г.д.

Праўда, п. 12 капітуляцыйнай умовы альянтаў з Немцамі прадбачваў на ўсходзе паступовую эвакуацыю аж да часу пакуль альянты не разьвяжуць справу стрыманьня бальшавікоў, але ня ўсюды гэта было магчымым. У Нямеччыне ўзьнялася рэвалюцыя, якая пагражала развалам усяе арміі. Таму ўжо ў другой палове лістапада Немцы пачалі эвакуацыю ўсходняй Беларусі.

### 2. УМОВА БНР З ТАРЫБАЙ

Усім стала ясна, што БНР, ня маючы сваіх збройных сілаў, ня здолее супрацьставіцца бальшавіцкай навале. Трэба было шукаць саюзьнікаў ды прадмосьця да падрыхтоўкі збройных сілаў дзеля вызваленьня ўсяе Беларусі. Апорай і прадмосьцем сталіся беларускія землі, далучаныя Немцамі да жамойцкай дзяржавы, г.зн. Віленшчына, Гарадзеншчына й Беласточчына.

Вось-жа, на падставе ўмовы Ўправы Гарадзенскай і Віленскай Беларускай Рады з Летувіскай Тарыбай, 30 лістапада 1918 года і далейшых перамоваў Рады БНР з Тарыбай між 25-27 лістападам, наступіла падпісаньне ўмовы наступнага зьместу:

а) Шэсьце Беларусаў зь Віленскае Рады Ўвойдуць у Тарыбу (25 прац. Тарыбы);

б) Будзе створанае пры жамойцкім урадзе Беларускае Міністэрства для беларускіх Справаў;

в) Будуць вызначаныя на арганізацыю беларускай тэрыторыі сумы, прапарцыянальна да ліку насельніцтва і вялічыні тэрыторыі;

г) Жамойцкі ўрад павінен бараніць граніцы беларускай тэрыторыі, якая ў фэдэрацыі з Жамойціяй.

д) Беларуская тэрыторыя ў супольнай дзяржаве будзе тварыць аўтаномную адзінку зь беларускай урадавай мовай. Вызначэньне асобаў на ўрадавыя становішчы на беларускай тэрыторыі павінна адбывацца зь ведама і за згодай Беларускага Сакратарыяту;

е) Беларускае школьніцтва будзе падпарадкаванае Беларускаму Інспэктарату;

У Тарыбу ўвайшлі наступныя сябры Віленскай Рады: В.Ластоўскі - старшыня Рады БНР, І.Луцкевіч, Я.Станкевіч, В.Талочка, К.Фалькевіч і Д.Семашка. Міністрам Беларускіх Справаў быў вызначаны Язэп Варонка (1 сьнежня 1918) б. старшыня Рады БНР у Менску.

Уступаючы ў Тарыбу, беларускія дэлегаты 27 лістапада склалі такую дэклярацыю:

«Беларуская Рада, выбраная на Канфэрэнцыі 25-27 студзеня 1918 года прадстаўнікамі беларускага насельніцтва на захад ад лініі старога фронту; апіраючыся на пастановы названай Канфэрэнцыі і маючы за свой ідэал утварэньне фэдэратыўнага Лятувіскага і Беларускага Гаспадарства, дзеля важнасьці пераживанага мамэнту знайшла патрэбным прыступіць да канкрэтнай работы зь Лятувіскай Тарыбай, як адзіным існуючым лятувіскім прадстаўніцтвам. Беларуская Рада верыць, што два народы, злучаныя гістарычна і эканамічна, падаўшы адзін аднаму руку, патрапяць здабыць сабе вольнае і незалежнае жыцьце, ідучы дарогай дэмакратычнага будаўніцтва супольнае Дзяржавы».

8 сьнежня 1918 года быў эвакуаваны Немцамі Менск і перададзены бальшавікам разам з 1700 стрэльбамі і амуніцыяй. Выехалі ў Вільню і прадстаўнікі БНР. Крыху раней ( у канцы лістапада) у тую ж Вільню выехаў з Менску Беларускі Вайсковы Штаб з ген.Кандратовічам.

8 сьнежня 1918 бальшавікі занялі Дзьвінск і там ўтварылі «тымчасовы работніцка-сялянскі ўрад Летувы». На чале гэтага ўраду паставілі В.Капсукаса-Міцкевіча, а беларускімі прадстаўнікамі ў ім былі А.Яшкевіч і К.Керновіч. Гэта была бальшавіцкая рэакцыя на беларуска-жамойцкую ўмову і супрацоўніцтва.

Блізкасьць бальшавікоў пад Вільняй ды падрыхтоўваньне Немцаў да адыходу выклікала трыводнае становішча ў Вільні, тым больш, што ў месьце ня было арганізванай збройнай сілы, здольнай супраціўіцца бальшавікам. Вось-жа ген.Кандратовіч, як старшыня Беларускай Вайсковай Рады, ў паразуменьні з жамойцкай Вайсковай Радай прыступіў да фармаваньня побач жамойцкіх і беларускіх вайсковых аддзелаў. Былі апублікаваныя адозвы да насельніцтва аб фармаваньні жамойцкіх і беларускіх аддзелаў для абароны Вільні ды ўрухомленыя прызыўныя Камісіі. Першымі пачалі запісвацца ахвіцэры і жаўнеры, што выйшлі зь нямецкага палону. Сярод многіх ахвіцэраў 10 сьнежня 1918 г. далучыўся і штабскап. Мікалай Дзямідаў, які быў у нямецкім палоне ў Дзьвінску.

Такім чынам, у Вільні з запісаўшыхся ў беларускае войска, Прызыўная Камісія ў складзе ген. Кандратовіча, ген.Адамкевіча, ген. Нагевіча і палк. Гужа стварыла ядро першага Беларускага Палку і штаб другога палку. Першы Беларускі Пяхотны Полк быў пад камандваньнем палк.Лаўрэнціева, 2-гі - палк.Волкава. У гэты штаб у якасьці начальніка штабу ўвайшоў кап.М.Дзямідаў, будучы Камандант гораду Горадні.

Апрача беларуска-жамойцкіх вайсковых аддзелаў, у Вільні пачалі тварыцца і польскія аддзелы («Звёнзэк Вайсковых Полякув») ад 10.IX.1918. Немцы аднак не згадзіліся ўзброіць гэтыя аддзелы «Віленскай самаабароны». На пачатку сьнежня 1918г. польская арганізацыя высылала сваіх дэлегатаў - ген.Вэтэйку і Ў.Радкевіча да Пілсудскага ў Варшаву. Пілсудскі тады вызначыў ген. Вэтэйку камандзірам ўсіх польскіх аддзелаў на беларускай тэрыторіі ды выслаў у Вільню сваего ўпаўнаважанага ротм. Гурку зь вялікай сумай грошай. Ён меў дамовіцца зь Немцамі аб вольным пераезьдзе чыгункай у Вільню польскага войска для абароны Вільні( 4 бат. пяхоты, полк кавалерыі і дзьве батарэі артылерыі). Камандант гораду Вільні Немец Гофман пераслаў заяву Пілсудскага ў Бэрлін, адтуль прыйшоў адмоўны адказ. Жамойцы згаджаліся прыняць дапамогу Пілсудскага пад умовай адначасовага прызнаньня Польшчай іхняй дзяржавы з сталіцай Вільняй. На гэта зноў не згаджаліся Палякі.

Не дамовіўшыся з Палякамі, Жамойцы і Беларусы (Ластоўскі і Кандратовіч) 21-22 сьнежня 1918 склікалі нараду Рады дзяржаўнай абароны, на якой было даручана ген.Кандратовічу абарону Вільні ад бальшавікоў. Аднак ген. Кандратовіч не бачыў дастатковых сілаў для абароны гораду ды не пагаджаўся адступаць з войскам у Коўню. Ён уважаў, што яго абавязак перайсьці ў Горадню і там на сваёй тэрыторыі арганізаваць большыя сілы да змаганьня з бальшавізмам. Таму ўжо 22 сьнежня ён з беларускімі аддзеламі і дзеячамі выехаў у Горадню. Жамойцы ў перапалоху пачалі эвакуацыю ў Коўню. У Вільні засталася яшчэ жамойцкая камандатура, што сьцерагла жамойцкі сьцяг на замкавай гары, а таксама прэм'ер Сьляжэвіч зь некалькімі прыбочнымі.

Дадаць тут трэба, што Жамойцы пасьля выезду Беларусаў з Вільні на сваіх бурных паседжаньнях 24-26 сьнежня адхілілі ўруад Смэтоны, а паставілі М.Сьляжэвіча, а загадам N7 свайго штабу з дня 24.12. адхілілі ген. Кандратовіча ад займанага становішча шэфа абароны ды ўзнавілі перамовы з Палякамі ў справе абароны гораду.

У выніку такога становішча, абарону Вільні пачалі арганізоўваць Палякі пад камандваньнем ген.Вэтэйкі. «Самаабарона» Вільні разам і з сьцягненымі аддзеламі з Вялейкі, Ашмянаў, Коўні, Кашыдараў налічвала 4 батальёны пяхоты і каля 250 чалавек кавалерыі. Быў выданы загад аб агульнай мабілізацыі, супраць якога пратэставала Рада БНР. Аднак, мабілізацыя не дала выніку, бо ніхто не верыў у трываласьць польскай улады і вайсковыя аддзелы выехалі разам з Немцамі ў Коўню, а ў горад увайшлі бальшавікі, падтрымоўваныя прабальшавіцкімі работніцкімі арганізацыямі. Польская «самаабарона» аж 5 дзён білася з бальшавіцкім войскам у ваколіцах Вільні і ў самым горадзе, аднак ня ўтрымалася. 5 студзеня бальшавікі былі панамі сітуацыі, прывёзшы свой «урад» з Дзьвінску. Польская «самаабарона» часткова адступіла ў раен Коўні і Аліты, дзе была Немцамі раззброена, часткова праходзіла праз Гарадзеншчыну і Лідчыну на захад, каб злучыцца з польскім войскам, якое знаходзілася ў раене Бугу і Нарвы з некаторымі ўкліньваньнямі. Гэтыя адыходзячыя аддзелы па дарозе рабавалі насельніцтва і распраўляліся з мясцовымі беларускімі ўладамі.

**(Працяг будзе).**

